Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

25 сакавіка 1998 года
СЕРАДА
№ 23(103)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

## Цукровы «голад» пачаўся

У апошнія дні ў магазінах Івацэвічаў знік цукар-пясок. А дагэтуль яшчэ два-тры дні прадавалі яго па кілаграму ў адны рукі. У мінулую нядзелю цукрам гандлявалі на базары з машыны па цане 23.800 рублёў за кілаграм і кожнаму пакупніку адпускалі па два кілаграмы. І была, вядома, немалая чарга.

Праўда, дапамаглі ці дакладней выручылі мясцовых гандляроў драгічынцы, якія прывезлі сюды прадаваць салодкую прадукцыю.

Заўважылі таксама гараджане, што асноўныя прадукты харчавання сталі адпускаць у абмежаванай колькасці. Многія, з кім давялося гутарыць, лічаць, што наступае пара дэфіцытаў, як і ў савецкія часы, а можа і картачная сістэма.

Чаму ж у гандлі не стала цукру? Чаму іншыя прадукты прадаюцца ў абмежаванай колькасці?

З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся ў Івацэвіцкае рознічна-гандлёвае прадпрыемства. Яго старшыня Т. А. Казлова сказала наступнае:

— Мы свае фонды па цукру выбралі. Нас забяспечвае райпо, звяртайцеся за тлумачэннямі туды.

І мы звярнуліся ў райпо. Намеснік старшыні райпо па гандлі В. С. Люсцібер на нашы пытанні адказала так:

— Свае фонды цукру мы ўжо рэалізавалі. Прададзена цукру ў паўтара раза больш, чым у першым квартале мінулага года. Але ж мы не будзем сядзець спакойна, будзем шукаць, дзе можна яшчэ закупіць пэўную колькасць цукру. Іншага выхаду пакуль што няма.

Што ж тычыцца абмежаванняў водпуску прадуктаў у адны рукі, то мы кіруемся рашэннем аблвыканкама па гэтым пытанні, якое прынята яшчэ ў 1996 годзе і нікім не адмянялася.

Вось такое становішча з продажам, дакладней кажучы з адсутнасцю цукру ў гандлёвай сетцы раёна. І, вядома, дэфіцыт яго, як магчыма, і іншых прадуктаў, з'яўляецца следствам нашай недарэчнай фінансава-эканамічнай палітыкі, інфляцыі і падзення курса рубля.

## Часцей бы так!

Ідуць веснавыя канікулы ў школьнікаў, а разам з імі — свята кіно і кнігі, якое будзе доўжыцца цэлы тыдзень. На працягу чатырох дзён вучні першых—дзевятых класаў горада прыходзяць у кінатэатр "Партызан", каб паўдзельнічаць у розных мерапрыемстваў.

Так, у першы дзень урачыстага адкрыцця свята адбылася змястоўная вандроўка ў родную мову пад назвай "Ад слова да сэрца".

Усе мерапрыемствы — падарожжы па гісторыі продкаў, сустрэчы з героямі твораў Міхалкова, казачныя кінакрасворды, віктарыны, паказы мультфільмаў і, канешне, дыскатэка — даспадобы дзецям. А самыя актыўныя ўдзельнікі свята будуць заахвочаны прызамі.

Свята кіно і кнігі падрыхтавалі работнікі гарадской дзіцячай бібліятэкі і кінатэатра "Партызан". Часцей бы так!





● *25 САКАВІКА — 80-ЫЯ ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ*



*Першы ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Злева направа сядзяць — А. Бурбіс, І. Серада, Я. Варонка, В. Захарка; стаяць — А. Смоліч, П. Крэчэўскі, К. Езавітаў, А. Аўсянік, Л. Заяц.*

**(Матэрыял, прысвечаны 80-ым угодкам БНР, чытайце на 2-ой стар.).**

(Матэрыял, прысвечаны 80-ым угодкам БНР, чытайце на 2-ой стар.).

***Вітаем прыхільнікаў незалежнасці (будучых грамадзянаў будучай БНР у ХХІ ст.) з Днём Волі — 80-годдзем абвяшчэння незалежнасці 25 сакавіка 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).***

***Бярозаўская раённая Рада БНФ "Адраджэнне".***

БЯРОЗА

## І напамінак непажаданы...

Як ужо мы паведамлялі, райвыканкам адмовіў раённай Радзе БНФ "Адраджэнне" ў правядзенні пікету, прысвечанага 80-ым угодкам БНР. Вертыкальшчыкі сваю адмову матывавалі тым, што "... Законом Республики Беларусь о собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании" не предусмотрено проведение пикетирований, посвященных определенным событиям общественно-политической жизни".

Рэдактар раённай газеты "Маяк" Я. Сяленя адмовіўся надрукаваць платнае віншаванне Рады з Днём Волі — 80-ым угодкам БНР. Нават напамінак пра незалежнасць, як бачна, непажаданы...

## У красавіку — шмат святаў

Саўмін Беларусі пастанавіў перанесці рабочы дзень з панядзелка, 27 красавіка, на суботу, 25 красавіка.

Нагадаем, што 12—13 красавіка адзначаецца каталіцкі Вялікдзень, 19—20 — праваслаўны. 28 красавіка — Радаўніца. Гэтыя дні — выхадныя.

БАРАНОВИЧИ

## Опять фальшивка

Кассир Барановичского отделения "Белпромстройбанка" обнаружила поддельную 50-тысячную купюру Национального банка Республики Беларусь. Фальшивку приняла от неизвестного покупателя продавец фирменного магазина акционерного объединения "Барановичидрев". Этот, хотя и единичный в данной ситуации случай, пусть будет напоминанием, что по республике "гуляет" много поддельных крупных купюр не только белорусских денег, но и российских рублей, немецких марок, долларов США. Уж работники прилавка обязаны в этом разбираться.

● ПРАШУ СЛОВА

# А пакуль... дубінкі ў модзе

А мне шкада Шчукіна, дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання, дэпутата парламента, разагнанага прэзідэнтам.

Яго, адстаўніка, марскога афіцэра, круцілі, валаклі міліцыянеры з дубінкамі. Другому руку зламалі, заштурхоўваючы ў "варанок". Кагосьці груба валтузілі.

Гэта — фрагменты з падзеяў, што адбыліся нядаўна ў Мінску і былі паказаны па ГРТ.

У той дзень судзілі Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага. Паўгода гэтыя маладыя людзі правялі ў жудасных умовах следчага ізалятара. За тое, што пісалі на сценах надпісы апазіцыйнага зместу.

Палітык, апазіцыянер цяперашняй уладзе Шчукін на сабе паспытаў усю "асалоду" сучаснага правасуддзя. Пэўна таму, ён меў мужнасць разам з іншымі мінчанамі прыйсці і стаяць на плацу перад будынкам суда, дзе вырашаўся лёс двух хлопцаў, зусім яшчэ дзяцей. Мірная акцыя падтрымкі абярнулася... Аказваецца ўжо і стаяць на роднай зямлі нельга. "Не положано!" Вось так. І рукі могуць выкруціць. Не ўпершыню.

І яму, Паўлу Шарамету, спрабавалі выкруціць... Сумленне. Зламаць упартага бескампраміснага журналіста, які праўдзіва інфармаваў грамадскасць аб парушэнні правоў і свабод чалавека ў Беларусі. Дзякуючы яго мужным рэпартажам, мы, тэлегледачы ГРТ, бачылі, як збівалі ўдзельнікаў мірных дэманстрацый, у тым ліку жанчын, падлеткаў. Як лавілі і запіхвалі ў "варанкі" маладых людзей толькі за тое, што тыя размаўлялі па-беларуску, як фальсіфікавалі падзеі. Памятаецца адзін з многіх кур'ёзны факт. Глуханямому юнаку стражы парадку (трэба ж выслужыцца!) ставілі ў віну... быццам ён зняважыў прэзідэнта, выкрыкваючы пад час дэманстрацыі не зусім прыстойныя словы. Глуханямы, выходзіла, раптам загаварыў? Дзікунства! Палітычнае дзікунства!

Яно ж адчувалася ў залах судоў над журналістам Паўлам Шараметам, над дзесяткамі іншых грамадзян, якія адкрыта выказваюць свае негатыўныя адносіны да палітыкі сённяшняй улады.

За праўду збіваюць людзей, выкручваюць рукі. А што наша беларуская Феміда? Дзе вы, высокай сумленнасці і прыстойнасці юрысты, міністры, навукоўцы, пісьменнікі? Тыя, хто па волі Божай закліканы трымаць слова ў абарону пакрыўджаных, зняважаных?

Не чутно, на жаль, набатнага голасу ў абарону суайчыннікаў. Затое І. Антановіч, міністр замежных спраў Беларусі, вельмі ўжо заклапочаны апошнімі падзеямі ў Латвіі. Як жанчына, я супраць усялякага насілля. Ці то над камуністамі ці бэнэфаўцамі, рускімі ці беларусамі,чачэнцамі ці ўкраінцамі. Біццё рускіх у Латвіі ёсць біццё. Адпаведнае абурэнне зразумелае. Але не зразумелае мне іншае: чаму высокапастаўленыя чыноўнікі на аналагічныя падзеі ў Беларусі не рэагуюць, бы вады ў рот набралі? Выходзіць дэманстранты ў Латвіі — людзі, а ў нас — не?

Прастытуіраваная палітыка выклікае агіду. Асабіста я падтрымліваю грамадзяніна Шчукіна і хто быў з ім. Мне імпануе іх незалежная пазіцыя і ўласны погляд на жыццё-быццё. Паболей бы мужных людзей, глядзіш — сапраўдная дэмакратыя ўсталюецца на Беларусі. А пакуль...

Затыкаюць рот за праўду, фабрыкуюць справы за ўдзел у дэманстрацыях пратэсту, сумленных палітыкаў, якія спрабуюць данесці да людзей аб'ектыўную інфармацыю аб эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў дзяржаве, падсцерагаюць у пад'ездах, ля ліфтаў і збіваюць (як жудасна расправіліся з кінарэжысёрам Хашчаватскім, які стварыў дакументальны фільм пра прэзідэнта), закрываюць незалежныя газеты...

"Не смець!" "Не положено!" "Молчать!" Ці ж не з гэтага пачыналася эра дыктатараў Сталіна, Гітлера, на руках якіх пакутніцкая кроў мільёнаў ні ў чым не вінаватых людзей. Не забывайма мінулае, каб унукам нашым не прыйшлося мераць кіламетры сібірскага тракту да жудасных канцлагераў. Не забывайма!

*Н. ЧЫКІТА,*
*г. Івацэвічы.*

# СВАЮ ГІСТОРЫЮ ТРЭБА ВЕДАЦЬ, ПАМЯТАЦЬ І Ў ЯЕ ВУЧЫЦЦА

**(25 сакавіка – 80-ыя ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі)**

## I

У Еўропе цяжка назваць яшчэ адну краіну, у якой лёс народа быў бы такім трагічным, як лёс беларусаў. Узнікшы ў другой палове мінулага тысячагоддзя ў выніку змяшэння славян з балтамі, прародзічы беларусаў – крывічы, радзімічы і дрыгавічы – былі вядомы як высокаразвітыя па тым часе плямёны. (Зазначым, што вялікаруская народнасць склалася ў выніку перамешвання і сімбіёзу славянскіх і фінскіх плямёнаў, аб чым гаварыў вядомы рускі гісторык Васіль Ключэўскі).

Крывічы адным з першых ва Усходняй Еўропе стварылі сваю дзяржаву – Полацкае княства. Як паведамляе адно з народных гераічных скандынаўскіх сказанняў, ужо ў момант запрашэння ў Наўгародскую Русь варагаў (862 г.) крывічы-палачане мелі сваіх мясцовых князёў. Прыкладна ў гэты час стварылі сваю дзяржаву і дрыгавічы – Тураўска-Пінскае княства. Дарэчы, першым Кіеўскім князем, які пачаў аб'ядноўваць розныя плямёны ў адну дзяржаву, быў Алег (879-912 гады).

Сказаць, што ў беларусаў і вялікарусаў адны карані і назваць іх роднымі братамі, як гэта робяць некаторыя палітыкі, ніяк нельга, бо ў фарміраванні іх, апроч усходніх славянаў, удзельнічалі і іншыя, прычым ужо зусім неславянскія плямёны. Ды і фарміравацца як народнасці беларусы і вялікарусы (а гэта можна сказаць і аб украінцах) пачалі прыкладна ў адзін і той жа час, а таму няма сярод іх старэйшага брата, як няма і малодшых братоў.

Наступны перыяд развіцця беларускай нацыі праходзіў ужо ў Вялікім княстве Літоўскім, дзе, апроч славян, якія складалі большасць насельніцтва дзяржавы, пражывалі таксама балцкае племя жмудзь, латгалы, татары, караімы, габрэі і інш. Але ў сувязі з дамініруючым становішчам «рускіх» (так тады называліся будучыя беларусы) дзяржаўнымі сталі і іх мова, і іх герб – «Пагоня». Адметнай рысаю ВКЛ было тое, што тут ужо падчас сярэднявечча сцвярджаліся многія дэмакратычныя формы грамадскага і палітычнага жыцця. Гэта праяўлялася ва ўстойлівасці вечавага парадку кіравання, а таксама нормах права, замацаваных у Статутах Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гадоў.

У XVI стагоддзі ў Вялікім княстве Літоўскім была праведзена аграрная рэформа, у выніку якой пры вызначэнні абавязкаў перад дзяржаваю стала ўлічвацца не толькі колькасць, але і якасць зямлі. Развіваліся рамёствы, у тым ліку і металургічныя, сыравінай для якіх была балотная руда. Інтэнсіўна ішоў працэс росту гарадоў. У 1600 годзе іх было ўжо больш за 500, прычым шмат з якіх былі добра ўладкаванымі. Скажам, у Гародні ўжо ў 1541 годзе існаваў вадаправод.

Вялікі патэнцыял накапіла беларуская нацыя і ў галіне духоўнага жыцця. Яна мела, па сведчанню выдатнага паэта Адама Міцкевіча, самы багаты і самы чысты говар, які к таму часу быў ужо цудоўна распрацаваны. У 1570 годзе ў Вільні быў адкрыты каледж, які праз 8 гадоў быў пераўтвораны ў акадэмію. Акадэмія мела свае фабрыкі і друкарню. Студэнты ўсіх факультэтаў вывучалі тут сваю беларускую мову. Пазней акадэмія была пераўтворана ў Віленскі універсітэт. У Расіі першы універсітэт (Маскоўскі) быў адкрыты толькі ў 1755 годзе. Гісторыі вядомы і такі факт, што «вратами учености» Міхайлы Ламаносава была «Граматыка» Мялеція Сматрыцкага, якая выдадзена ў беларускім пасёлку Іўе Гарадзенскай вобласці амаль за 100 гадоў да нараджэння вялікага рускага вучонага. Першыя ў Расіі падручнік па арыфметыцы, слоўнікі – руска-лацінска-галандскі – былі складзены і выдадзены беларусам са Случчыны Іллёй Капіевічам.




*Паштоўка Беларускай Народнай Рэспублікі 1918 г.*

Беларускі народ нарадзіў і выхаваў такіх волатаў, як хрысціянскія культурныя асветнікі Еўфрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі, дзяржаўныя дзеячы: князь Усяслаў Брачыслававіч і Вялікі князь Вітаўт, канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега, ваенныя палкаводцы Давыд Гарадзенскі і Канстанцін Астрожскі, гуманісты-асветнікі Мікалай Гусоўскі, Францыск Скарына, Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, а таксама шмат іншых выдатных вучоных і дзеячоў культуры, якія сваімі працамі ўзбагацілі сусветную цывілізацыю.

У беларусаў склаліся свае нацыянальны характар і менталітэт, які азначае сукупнасць устойлівых маральна-псіхалагічных уласцівасцяў, прыналежных таму ці іншаму народу, і якія праяўляюцца ў сваёй самаацэнцы і самаіндэнтыфікацыі ў адносінах да працы, людзей іншых нацыянальнасцяў і веравызнанняў, а таксама ў паводзінах у экстрэмальных сітуацыях. Адметнымі рысамі беларусаў з'яўляюцца працалюбівасць і асаблівая павага да зямлі. Беларусы маўклівыя, стрыманыя, асцярожныя, нават крыху баязлівыя. Пражыванне на стыку двух цывілізацый (заходняй і ўсходняй) і ва ўмовах шматканфесійнасці выхавала ў беларускага народа такую рысу як талерантнасць. Пачуццё свабоды і незалежнасці беларускі народ захаваў нягледзячы на нацыянальны ўціск спачатку каралеўскага кіраўніцтва Рэчы Паспалітай, якая была створана ў выніку аб'яднання ў 1569 годзе Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, а пасля яе падзелу напрыканцы XVIII стагоддзя імкненне царскага ўраду Расійскай імперыі вынішчыць у беларусаў усё нацыянальнае і эканамічна прывязаць Беларусь да Расіі, ператварыўшы яе ў свой «северо-западный край». Каб захаваць сваю нацыянальную годнасць і «людзьмі звацца», беларусам не адзін раз прыходзілася брацца за зброю. Так было ў час Крычаўскага паўстання на чале з Васілём Вашчылай (1740-1744 гады), паўстання 1830-1831 гадоў, вызваленчага руху пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага (1863 г.).

## II

Лагічным завяршэннем барацьбы шматлікіх пакаленняў беларусаў за адраджэнне сваёй дзяржавы сталі абвяшчэнне ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Гэтаму ў многім паспрыяла лютаўская 1917 года рэвалюцыя ў Расійскай імперыі, якая разбурыла і механізм прымусовага ўтрымання народаў розных нацыянальнасцяў у адной дзяржаве.

Таму І Усебеларускі з'езд (снежань 1917 года) выказаўся большасцю галасоў за права беларусаў вызначаць свой лёс. З'езд быў прымусова разагнаны, а яго Прэзідыум арыштаваны.

Канчатковае рашэнне аб абвяшчэнні незалежнай і вольнай беларускай дзяржавы было прынята ноччу з 24 на 25 сакавіка на пасяджэнні Рады БНР. У III Устаўной грамаце гаварылася наконт гэтага літаральна наступнае: «Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі звергі ярмо Расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь, не пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Ўстаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі». На гэтым жа пасяджэнні Рады Беларусь адмаўлялася прызнаць Брэсцкі дагавор. Адначасова гаварылася і аб тым, што Беларуская Народная Рэспубліка павінна ахапіць усе беларускія губерні і сумежныя часткі Вялікаросіі, дзе ёсць беларусы. Рада пацвердзіла ўсе правы і свабоды грамадзян, якія абвяшчаліся II-ой Устаўной граматай ад 9 сакавіка: слова, друку, сходаў, забастовак, сумлення, недатыкальнасць асобы і жылля, прага на аўтаномію, раўнапраўе моў усіх нацыянальнасцяў Беларусі. Устанаўліваўся 8-гадзінны рабочы дзень. Лясы, воды і нетры зямлі аб'яўляліся ўласнасцю БНР, зямля, застаючыся ў прыватнай уласнасці, павінна была бясплатна перадавацца тым, хто яе апрацоўваў.

Была зацверджана дзяржаўная сімволіка БНР, якая з'яўляецца набыткам нацыі, а не палітычнага ладу. Таму дзяржаўным гербам была зацверджана «Пагоня», якая бярэ свае вытокі ў глыбокай старажытнасці. Так, у вялікакняскім лісце жыхарам ад 20 лютага 1387 года гаварылася: «Згодна старажытным звычаям, вайсковы паход з'яўляецца абавязкам, які выконваецца за кошт уласных магчымасцяў і сродкаў у тым выпадку, калі з'яўляецца неабходнасць праследу ворагаў, непрыяцеляў нашых... У праследу ворагаў, якое па-народнаму называецца пагоняю, павінны ўдзельнічаць не толькі рыцары, але і кожны мужчына, які можа насіць зброю, якога б ён не быў паходжання і стану». Наступным аргументам, які напэўна паўплываў на выбар нашымі далёкімі продкамі ў якасці герба «Пагоні», з'яўляецца хрысціянская традыцыя. Як вядома, адным з герояў і святых у хрысціян з'яўляецца Георгій (Юры), які сядзіць на белым кані з дзідаю, а пад нагамі каня ляжыць забіты змій.

Дзяржаўным сцягам беларусаў было зацверджана белае палотнішча з чырвонаю гарызантальнаю паласою ў цэнтры. Белы колер з'яўляецца сімвалам радасці, дабрадзейнасці і сумлення, якія ўласцівы характару беларусаў. Чырвоны колер – гэта сімвал храбрасці і адвагі, вернасці Радзіме, зноў такі характэрных рысаў беларусаў. Белы колер з чырвонымі стужкамі – гэта колеры Ісуса Хрыста, а значыцца сімвалы святасці.

За кароткі час існавання БНР яе кіраўніцтвам было вельмі шмат чаго зроблена па вырашэнні праблемаў асветы. У прыватнасці, пашырана сетка пачатковых і сярэдніх школ, створана бюро па напісанню падручнікаў, а для іх выдання – таварыства «Асвета», арганізаваны курсы для настаўнікаў і школьныя інспекцыі. У Менску адкрыўся педагагічны інстытут. Стала выдавацца некалькі газет і часопісаў. Дзейнічалі беларускі тэатр, таварыства драмы і камедыі, працаваў шэраг іншых устаноў культуры. Была створана і пачала дзейнічаць камісія па арганізацыі Беларускага універсітэта.

Утварэнне БНР з асаблівай цеплынёй падтрымалі шматтысячныя сходы беларусаў, якія знаходзіліся ў іншых краінах. Напрыклад, беларусы горада Адэсы ў прынятай імі 21 красавіка 1918 года рэзалюцыі пісалі: «Вітаць утварэнне Беларускай Нацыянальнай Рэспублікі і ўсімі сіламі падтрымаць Беларускі народны ўрад, цвёрда верачы, што ён пры падтрымцы ўсіх беларусаў выканае ўскладзеныя на яго цяжкія і адказныя задачы і выведзе беларускі народ непадзельным на шлях шырокага культурна-творчага і эканамічнага будаўніцтва. Няхай жыве Вольная Беларусь!»

Такім чынам, абвяшчэнне БНР – гэта была першая рэальная спроба пасля больш чым стогадовага прабывання нашага краю ў «турме народаў» (як называў Уладзімір Ульянаў (Ленін) Расійскую імперыю) здзейсніць нацыянальнае самавызначэнне на буржуазна-дэмакратычнай аснове. Калі адкінуць класавую зашоранасць і пакласці ў аснову аналізу гістарычных падзей іх заканамернасць і ўзаемасувязь, дык Днём незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь павінен лічыцца менавіта дзень 25 сакавіка. Трэба было б таксама аддаць належнае дзяржаўным і грамадскім дзеячам тых гадоў: Язэпу Варонку, Васілю Захарку, Івану Серадзе, Аркадзю Смолічу, Канстанціну Езавітаву, Язэпу Лёсіку, Тамашу Грыбу, Антону і Івану Луцкевічам, Аляксандру Цвікевічу, Сымону Раку-Міхайлоўскаму і інш. Пашану беларускага народа яны заслужылі сваёй барацьбой за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы.

## III

На жаль, пастаўленая кіраўніцтвам БНР мэта – стварыць незалежную і вольную Беларусь – не была здзейснена. Прычын таму было шмат. Перш за ўсё, неспрыяльныя знешнія і ўнутраныя ўмовы – БНР была створана і існавала пад нямецкай акупацыяй. І германскія інтэрвенты не хацелі падтрымліваць стварэнне незалежнай і вольнай беларускай дзяржавы. З утварэннем БНР ніяк не маглі пагадзіцца бальшавікі. І 1 студзеня 1919 года ў Смаленску ў якасці альтэрнатывы БНР была абвешчана Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь.

Дзеля справядлівасці трэба прызнаць, што ў першыя гады існавання БССР было зроблена таксама нямала па далейшаму росту нацыянальнай самасвядомасці народа. Дастаткова сказаць, што ў 1925 –26 навучальным годзе на беларускай мове ішло выкладанне ў 79,6 працэнта пачатковых школ. Беларусізацыяй было ахоплена 63,2 працэнта сельскагаспадарчых тэхнікумаў. У 1927 годзе на Беларусі выходзіла 20 газет, з іх 10 – на беларускай мове, з 16 часопісаў 10 было беларускамоўных. У рэспубліцы былі адкрыты Акадэмія навук, некалькі вучэбных інстытутаў і тэатраў, народная мастацкая школа. У 1927 годзе нават быў выдадзены «Практычны беларускі армейскі слоўнік».

Аднак перыяд беларусізацыі аказаўся, на жаль, вельмі кароткім. У пастанове XI з'езда КП(б)Б (лістапад 1927 г.) гаварылася: «Калі дробнабуржуазны нацыяналізм і нацыянал-дэмакратызм у Беларусі раней быў прагрэсіўнай з'явай – змагаўся з самадзяржаўем і даваў адпор прыгнёту рускага царызму, то ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту ён зрабіўся контррэвалюцыйнай з'явай, накіраванай супраць дыктатуры пралетарыяту. Таму барацьба супраць нацыяналізму ўсіх нацый і адценняў, супраць нацыяналістычных ухілаў і нацыянал-дэмакратызму павінна быць і ў далейшым рашуча працягнута». На практыцы гэты заклік скончыўся знішчэннем нацыянальных кадраў.

Гісторыкаў скораных этнасаў прымусілі занава перапісваць гісторыю сваіх нацыяў. Напрыклад, у падручніку «История БССР» пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта АПН СССР Л. Абецедарскага (Менск, «Народная асвета», 1975) кіраўнікі БНР кваліфікуюцца як «белорусские буржуазные националисты», якія нібыта «надеялись при помощи немецких штыков оторвать Белоруссию от Советской России, установить над трудящимися Белорусии власть белорусских капиталистов и помещиков».

Аднак створаная бальшавікамі новая імперыя – Савецкі Саюз – аказалася такой жа нежыццяздольнай, як і прыдуманы імі сацыялізм. 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет Беларусі прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, якой 25 жніўня 1991 года была нададзена сіла канстытуцыйнага закону. А 15 сакавіка 1994 года была прынята і сама Канстытуцыя Рэспубліка Беларусь як незалежнай, суверэннай дзяржавы.

Сёння, як і ў 1918 годзе, Беларусь зноў апынулася пад пагрозай страты сваёй незалежнасці Пасля здзяйснення ў лістападзе 1996 года пад выглядам так званага рэферэндуму дзяржаўнага пераварота А. Лукашэнка і яго саўдзельнікі ўзялі курс фактычна на змену дзяржаўнага ладу і стварэння нейкай «нябачнай да гэтуль дзяржавы», асновай якой, на іх думку, павінен стаць Саюз Беларусі і Расіі. Вынята наверх заплеснелая і ілжывая тэорыя аб агульных каранях беларусаў і рускіх. На практыцы ўсё гэта азначае, што Рэспубліка Беларусь і яе народ робяцца «разменнай манетай» у палітычных гульнях чалавека. Рэжым Лукашэнкі не толькі растаптаў дэмакратыю ў Беларусі, але, як у свой час і яго папярэднікі (германскі фашызм і сталіншчына), робіцца з кожным днём усё больш небяспечным для ўсёй Еўропы.

Няхай сёння зноў гучыць і надае нам аптымізму, прыйшоўшы да нас з глыбокай старажытнасці, сцвярджальны лозунг, у якім зліліся ў адно і паганскае закліканне, і хрысціянская малітва, і заклік да барацьбы за сваю свабоду і незалежнасць – «Жыве Беларусь!»

*С. ШАРЭЦКІ,*
*Старшыня*
*Вярхоўнага Савета*
*Рэспублікі Беларусь.*

ПАМЯЦЬ

# Дзяды: шлях у нябыт

Калі глядзець старажытныя карты Беларусі, то ў месцы, што ў некалькіх кіламетрах на поўнач ад сённяшняй станцыі Бронная Гара, можна заўважыць вёску з такой роднай і адначасова дзіўнай назвай — Дзяды. Але не спяшайцеся шукаць яе на сучасных картах ці неяк патрапіць туды. Таму што яе няма...

XXX

Цёплым летнім днём 1942 г. у вёску Дзяды ўварваўся нямецкі карны атрад. Паветра адразу ж напоўнілася жаночым плачам і крыкам дзяцей. Усе жыхары, малыя і старыя былі сабраны ля адной з хат. Далейшыя планы немцаў не выклікалі сумніву. Адно невядома, чаму ў самы апошні момант яны змяніліся і які цуд уратаваў людзей ад смерці. Бо замест масавага расстрэлу фашысты ўзялі ў заложнікі пяцёх жыхароў з умовай, што калі ў наваколлі не будзе дыверсій, то яны будуць адпушчаны. І сапраўды, праз чатыры месяцы заложнікаў вызвалілі.

Але без ахвяр усе ж не абышлося — былі расстраляныя дзве сям'і. Адна — за зброю, якую дзесь знайшлі падлеткі і ўпотайкі прыхавалі дома. Астатнім жыхарам дазволілі ўзяць з сабой такія-сякія рэчы і загадалі высяляцца на Бронную Гару. За іх плячыма засталіся палаючыя хаты. Дзяды адыходзілі ў нябыт.

Што ўяўляла сабой гэтая вёска? Была яна невялічкая па памерах (усяго восем сем'яў), закінутая ў дрымучым лесе. Згодна паданню, калісьці нейкі пан прадаў у гэтым месцы некалькім сялянам частку сваёй зямлі, а дакладней — лесу і балота. Тут яны пасяліліся, вялі сваю няхітрую натуральную гаспадарку, дзякуючы якой і жылі. Цяжкім было тое жыццё ў лясным глушы, ды ўтрымлівала ад перасялення ў лепшае месца ўласная зямля-карміцелька. Здараліся часам і святы. Быў у Дзядах прыгожы касцёл і сваё вясковае прастольнае свята ў гонар святога Антонія. На яго раз у год збіраліся людзі з усяго наваколля, адпраўлялася ўрачыстае набажэнства. Так працягвалася да дня тых трагічных падзей.

XXX

Сёння ўжо амаль не засталося колішніх жыхароў Дзядоў. Адна з іх — Галоціна В. А., настаўніца бярозаўскай школы, кожнае лета наведвае з вучнямі вёску свайго дзяцінства, не — цяпер толькі месца, дзе знаходзілася тая. Але, па словах Валянціны Антонаўны, і сёння, як жывыя, стаяць у яе памяці родная вёска, родныя краявіды, непадуладныя злой волі, непадуладныя часу.

*М. СІНКЕВІЧ.*

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

# Знаёмцеся: сям'я Бянкоўскіх

Вялікая сям'я. Што гэта — шчасце, радасць або кабала нечалавечая? Адказ на гэтае пытанне я шукаў у вёсцы Гортал, цэнтры калгаса імя Куйбышава. Там, як мне сказалі, ёсць мнагадзетныя сем'і. І вось адна з іх — сям'я Бянкоўскіх.

— А вунь хата Бянкоўскіх, дзе дрэва самае высокае стаіць, — сказаў мне мужчына — горталец. — У канцы вуліцы, бліжэй да балота...

На падворку мяне сустрэў мужчына, сярэдняга росту, у ватоўцы, ботах. Я адразу вызначыў: яму няма яшчэ і шасцідзесяці. І не памыліўся. Добры, прыемны твар. Спакойны знешне ў размове і паводзінах, Анатоль Іванавіч Бянкоўскі, з якім я пазнаёміўся, расказаў пра сваю сям'ю, працу (а ён працуе трактарыстам у калгасе), пра ўсё тое, з чаго складаецца жыццё сялянскай сям'і.

У хаце, акрамя нас, знаходзілася і маці Алена Ігнатаўна, якая вось-вось разменяе дзевяты дзесятак.

— Слых у яе слабаваты, — кажа Анатоль. — На іншае пакуль не скардзіцца. Яшчэ усё дапамагае па гаспадарцы. Яшчэ пешкі да царквы ў Целяханы сходзіць і назад прыдыбае. Без маці нам цяжка прыйшлося б. Усіх дзяцей дапамагала гадаваць. Маці ёсць маці...

А дзяцей у Бянкоўскіх дзесяць — восем сыноў і дзве дачкі. Каму-каму, а Кацярыне Паўлаўне, жонцы Анатоля, больш за ўсіх прыходзілася гараваць і зараз яшчэ нялёгка.

Тры сыны і дзве дачкі ўжо маюць свае сем'і, жывуць асобна ад бацькоў — у Пінску, Целяханах і Гортале. Мікалай, Сяргей і Аляксей працуюць шафёрамі, Святлана — даяркай у мясцовым калгасе, Люба — прадаўцом у магазіне.

А вось астатнія пяцёра хлопцаў пакуль што жывуць разам з бацькамі.

Аляксандр і Анатоль — халасцякі, працуюць трактарыстамі ў калгасе імя Куйбышава. Спраўныя хлопцы, не баяцца любой працы, бо з дзяцінства прывучаны да яе.

— Добрыя сыны растуць, — заўважае бацька. — І нам дапамагаюць, і ўсёй сям'і.

Дарэчы, сям'ю Бянкоўскіх можна смела назваць механізатарскай. Пяць сыноў ужо выбралі бацькоўскую прафесію. А трое малодшых — школьнікі. Валодзя — дзевяцікласнік, Валера — вучань сёмага класа, Васька ў чацвёрты клас ходзіць. І яны, як іх браты, таксама мараць сесці за руль трактара ці аўтамабіля. Хай спраўдзіцца іх мара.

Хаця і пяцёра дзяцей Бянкоўскіх жывуць асобна, але ж і сёння бацькам нялёгка. У хаце восем чалавек. Прыгатаванне ежы, мыццё бялізны і догляд дамашняй жывёлы — гэтыя і іншыя работы штодня кладуцца на плечы дарослых. Трэба сказаць, што і дзеці малодшыя дапамагаюць. І дровы колюць, і чаргу кароў адпасуць, і дроў у хату наносяць, а летам за грыбамі і ягадамі ў лес ходзяць.

— Калі б мы не займаліся ўласнай гаспадаркай, то не ведаю, як бы пражылі, — гаворыць Анатоль Іванавіч. — Ёсць у нас дзве каровы, свінні, куры. А заробкі ў калгасе, ведаеце, невялікія, хоць чацвёра нас, дарослых, працуе. Нават жонка ходзіць у брыгаду. Яна ўжо на пенсіі, праўда, не па ўзросце, а па сямейнаму становішчу...

На цяжкасці Анатоль Іванавіч не скардзіцца. Ён, як і ўся сям'я, прывыклі да іх. Калі ж адважыліся мець столькі дзяцей, то прыходзіцца круціцца, інакш не выжывеш.

— Мне б лепш дзве дачкі замест хлопцаў і гора не мела б, — калінікалі і скажа Кацярына Паўлаўна. — Хлопцы ёсць хлопцы...

Гаспадар разумее сваю жонку, таму і стараецца дапамагаць ва ўсім, бо самой ёй не справіцца.

Умовы жыцця сям'і Бянкоўскіх, сказаць па праўдзе, не вельмі спрыяльныя. Хата для такой сям'і і зараз цеснаватая, а раней яшчэ горш было — аж трынаццаць чалавек мясціліся.

— Як жа вы жылі тады? — перапытваю гаспадароў.

— Вось так і жылі. Было хоць нары ў два паверхі майструй. Але ж неяк паракідаліся, бо будавацца не было за што, а зараз тым больш. Дапамогі няма ні адкуль...

І цяпер, калі на якое свята збяруцца дзеці, ужо сямейныя, то спаць паклаcці, акрамя падлогі, няма дзе. Але ніхто і ніколі не засмуціўся, не папракнуў бацькоў, не выказаў нейкай крыўды, незадаволенасці. Сыны, дочкі, зяці, нявесткі і нават унукі (а іх у Бянкоўскіх пакуль што шэсць) разумеюць не толькі адзін аднаго, але і сваіх бацькоў, дзядоў і бабуль. Як у той прымаўцы — у цеснаце ды не ў крыўдзе.

Дык што для Бянкоўскіх вялікая сям'я — радасць, шчасце ці вечная кабала, дамашняе зняволенне? Ва ўсякім разе ніякага страху і ніякага расчаравання, а тым больш нечалавечых пакутаў, разнагалоссяў, нейкай варожасці, калі дзеці і бацькі спрабуць высвятляць адносіны з дапамогай сварак і кулакоў, я не заўважыў. Дзеці для Бянкоўскіх старэйшых не толькі іх будучыня, можна смела сказаць і спакойная старасць, але ж і сапраўднае шчасце. Няпростае, цяжкае, выпакутаванае ў штодзённых клопатах, але ж шчасце.

*С. КАЖАДУБ.*

З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА

# Для дома, для семьи, для души...



*Так выглядаў некалі замак Пуслоўскіх у Мерачоўшчыне (ля Косава Івацэвіцкага раёна). Колькі ходжана па гэтай алеі, колькі слоў сказана, колькі мараў і дум вынашана...*

НАРОДНЫЙ КАЛЕНДАРЬ

## Сегодня — Феофан

Самый туманный день. Туман предвещает хороший урожай льна и конопли. В народе есть поверье, будто бы в среду на этой неделе переламывается пост в переднем углу. Бабушки, забавляя детей, садятся в передний угол за стол и стучат под лавкой. Этот стук, как уверяют они детей, будто происходит от ломанья поста.

ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

## Из старинных лечебников

**Мята огородная** укрепляет кишечник. Сок смешать с уксусом, мазать лоб и виски — унимает головную боль.

**Горчица в смеси с медом** избавляет от кашля. Этой смесью можно мазать лишаи. Горчица в смеси с козьим молоком залечивает раны.

**Перец** вычищает и согревает желудок. Однако, кто много его ест, "очи портит и кашель множит".

**Горячая гречневая каша**, сваренная на молоке и приложенная к ссадинам, обладет способностью заживлять болячки. Каша из гречневой муки придает человеку тучность.

**Сок лука с медом** излечивает кашель и болезни горла. Сок лука развести водой (1:10) и полоскать рот — излечивает язвенные болезни десен.

**Сок с кашицей растертого лука** втирать в кожу головы. Это способствует росту волос. Сок лука закапывать в нос от насморка. Лук потолочь с уксусом и помазать струпья и коросту — кожа станет гладкой.

**Запеченный лук** прикладывать к нарывам — проходят.

Для изгнания глистов надо есть лук натощак или пить луковый настой: лук измельчить, залить стаканом воды, настоять 8 часов, пить натощак 3 дня.

КАЛЕНДАРЬ САДОВОДА И ОГОРОДНИКА

## Посев

Убывающая Луна 25 марта в 18 ч. 43 мин. вошла в один из продуктивнейших знаков — Созвездие Рыб, где пробудет до 18 ч. 49 мин. 27 марта. Весь день 26 марта и в первой половине 27 марта полезно высевать и сажать в теплице "корешковые" (морковь, постернак, свекла и др.). В эти дни эффективны поливы всех культур.

XXX

Для посева семенами готовят ящик, на дне которого делают дренажный слой из мелкого щебня и древесного угля. Сверху насыпают слой (6 см) питательной почвы (перегной, листовая земля, песок в соотношении 5:3:2) и обильно поливают. Семена высевают под зиму или очень рано весной на глубину 2 см. Ящик накрывают темной тканью и ставят в затененное место. Все это время периодически поливают теплой водой, чтобы не повредить семена. С появлением всходов ящик с растениями ставят в саду под пленку. С образованием 5—6 листочков сеянцы рассаживают на расстоянии 10 см. Растение подкармливают настоем куриного помета 1:10.

## Удобрения

**Яичная скорлупа** — очень ценное минеральное питание. В ней, кроме извести (кальция), которая понижает кислотность почвы, содержатся микродобавки фосфора, серы, магния. Скорлупа повышает стойкость растений к различным заболеваниям. Собранную скорлупу просушивают на батареи, пропускают через мясорубку или хорошо измельчают деревянной скалкой (бутылкой) на доске. Чем меньше частички, тем эффективнее их воздействие на почву. Хранить порошок следует в бумажных пакетах в сухом месте. В полиэтиленовых пакетах порошок держать нельзя: остатки белка разлагаются.

Порошок из скорлупы вносят весной при перекопке огорода, рыхлении междурядий, посеве в грядки. Особенно хорошо на это удобрение реагируют огурцы, морковь, репа, капуста, брюква, меньше — помидоры, редька, редис, кабачки. Под картофель и щавель — не вносят. В извести нуждаются облепиха, слива, вишня, черешня. Комнатные и парниковые растения полезно поливать водой, настоянной на порошке из скорлупы.

УЛЫБНИТЕСЬ

Профессор в медицинском институте.

— Перед тем, как начать сегодняшнюю лекцию, я раскажу вам случай из своей жизни. Когда я был молодым, у меня была девушка. Потом появился в нашей группе сильный парень, который прекрасно танцевал. И он отбил у меня девушку. А я остался с носом, но он остался без носа. Итак тема сегодняшней лекции: "Сифилис и его последствия".

XXX

Объявление по радио:

"А сейчас для моряка дальнего плавания Михаила прозвучит популярная песня "В нашем доме появился замечательный сосед..."

● ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# БУТЕРБРОД

Мужчины, бросившие семью, конечно, такие-разэтакие. Против них все: родня, общественность, суд, ну прочие люди, организации и органы, так или иначе к разводу причастные. За женщину болеют все. А я вам расскажу историю иного рода... Словами ее участников, конечно, изменив имена. Сочувствия ради.

Он: я ее любил. (Конечно, иначе бы не женился. Здесь и далее в скобках мои комментарии). Она красивая и очень сильная физически. (К чему последнее замечание?). Ну... мы и поженились. Проблем не было ни с жильем, ни с мебелью. (Это не по существу). Мой батя бизнесмен и меня к этому приобщил. (Ясно. Любовь и деньги.). Родился Олежка. Светленький, голубоглазенький, ручки... (Опускаю пятиминутное описание особых прелестей обычного ребенка). А через семь лет мы развелись.

— Почему?

— Не знаю. У нее было все. Даже в ресторан одной ходить разрешал. (Разрешал!) Я был занят. Чтоб не скучала одна. (Ответил на мой мысленный вопрос). Развелись.

— Бывает. У нас на 100 браков 90 разводов.

— Та-ак не бывает! — подчеркнул он и повел свой рассказ далее. Поскольку я не называю его имени, позволю себе изложить его полуторачасовой рассказ более коротко.

... Оставшись один в «запасной» квартире, он перед сном молил Бога сохранить его сыночку здоровье, желал малышу добрых снов и спокойной ночи. Наутро в фирме ему поставляла информацию сослуживица, соседка и подруга бывшей жены и, охая, ахая, стеная и причитая, вливала ему очередную порцию о жизни сына Олежки: вчера был кровавый понос, вечером температура. Таня рассказала (Таня – жена, бывшая), утром пошел в школу прихрамывая и т. д., и т. п.

После таких инъекций, он (назовем Валерий) бросался к телефону:

— Ты еще играешь в отца? — слышал презрительно-ледяной голос Тани. – Забудь, что мы есть на свете, — закончила разговор.

Доведенный сотрудницей-соседкой до истерики, просил, умолял:

— Таня, ради всех святых, разреши повидать Олежку.

— После развода – он тебе не сын! А сам придешь – милицию вызову.

— Но ты же обещала, что мы будем встречаться.

— Я? С тобой? Ха-ха!..

— С Олежкой.

— Обещанного три года ждут. Не позволю, чтобы ты даже взглядом коснулся моей ласточки, моего голубка, — и, рыдая, вешала трубку.

Сослуживица: повесив трубку, Таня мгновенно преображалась.

— Ну как я его, козла? — слез как не бывало. – Я его доведу до дурдома. А ты мне, подружка, поможешь. Каждый день, спозаранку продолжай ему мои байки про страдания пацана рассказывать. Меня прямо по сердцу резануло это ее слово «пацан» о сыне... А тут Олежка и буркнул: «Папа хороший». Так она его смахнула рукой со стула, как муху. «Попробуй только снюхаться с ним. Задавлю! Будешь перечить – я тебя в такой интернат упрячу, что и сама не найду», и хохочет своей шутке. А Олежка свое: «Убегу». «Под землей найду, — грозит Таня, — папочку твоего по следу пущу. Этот пес сыщет... А я ему еще после этого кражу сына припаяю".

(Сраженный такой материнской «любовью», Олежка, наверное, со страху затих и мечтал лишь об одном: что его папа как-нибудь до него доберется, вызволит. Только, вот, мама... Как с нею управиться? Что делать? Теперь понятно, почему Валерий подчеркивал физическую силу бывшей жены).

Валерий: все! Не могу! Посоветуйте, что мне делать?

Я объяснил, что надо обратиться в суд. Там обяжут бывшую жену отпускать сына на встречу с отцом в определенные дни. Ведь он не лишен родительских прав. Что он и сделал. Через несколько дней мы опять встретились.

Валерий: все было как Вы и предполагали. На первую встречу Олежка пришел в драной одежонке, подавленный, хмурый. Но мы скоро нашли общий язык. (Опять вынужден сократить длинноющее повествование Валерия о счастливых двух часах общения отца с сыном, которое, однако, кончилось очень печально. Но послушаем Таню).

Таня: разорвала бы, съела живьем! Он меня бросил. Ме-ня! (Между прочим, инициатором развода была она). А сына не отдам! Добьюсь лишения родительских прав. Я его (Олежку) родила – я его и в могилу с собой заберу. Это моя ласточка! Мо-о-я! А этот гад... (Далее был пылающий ненавистью, жаждой уязвить, мучить, терзать бывшего мужа, использующий для этой жуткой цели безобидное дитя и придурковатую подругу. В стиле древнегреческой легенды о дочери Колхидского царя Медеи, убившей двоих своих сыновей, чтобы досадить мужу-изменнику).

Олежка: папа хороший, но жадный. На свидании кормит, катает, в кино водит. Новую одежду покупает. Деньги дает. Много. Я домой принесу и на другой день уже ничего нет – ни костюма, ни денег. Мама говорит: папа по телефону потребовал все обратно. И запрещает мне спрашивать у него, почему он так делает.

—А мама у тебя, Олежка, какая?

— Мама тоже хорошая. Она говорит, что я уже взрослый и не должен бояться ночью оставаться один, когда она уходит к подружке вязать мне варежки или шапочку. Только учительница, как увидит на мне что-то новое, улыбается и спрашивает: «Что, Олежка, мама опять у подружки варежки всю ночь вязала?».

Валерий: решил я Олежке купить обновку. Зашли мы в «Детский мир». (Очень популярный в Барановичах магазин детских товаров). Я выбрал ему джинсовый костюм, кроссовки, шапочку. Самые модные. Сами понимаете, при деньгах. Ну и решил здесь же переодеть. В самом деле, не идти же ему оборванцем по улицам. Хотя, помню, до развода у сына ворох одежды был... Вдруг Олежка заупрямился: не хочу переодеваться. Дома. И все правую руку в кармане куртки держит. Я его уговариваю, а он свое. Ну... Я и не сдержался. Давай силой старую куртку снимать. А он упирается. Не хочет руку из кармана вынимать. Я взял и выдернул. На пол упал бумажный сверток, развернулся. Между двух ломтиков хлеба лежала пластинка колбасы.

— Олежка, что это? — спросил, хотя уже страшная догадка зажгла сознание.

— Бутерброд. Мама сказала, чтобы я из твоих рук ничего не брал... Не ел...

(Через неделю прямо на работу к Валерию пришла посылка с соседней улицы, где жила Таня. В ней была купленная им одежда для сына и записка: «Подавись своей подачкой. Ищи моего сына. Он исчез после встречи с тобой. С милицией шутки плохи. Даю на поиски 24 часа!»... Выяснилось, Таня нарочно спрятала малыша у своей подруги. Чисто сработали). Валерий недавно снова приступил к работе после инфаркта...

*П. НАГНИБЕДА.*

● КНІГІ




У незалежным выдавецтве "Наша Ніва" выйшла кніга Васіля Быкава "Сьцяна", якая складаецца з празаічных твораў народнага пісьменніка апошніх гадоў (аповесць "Пакахай мяне салдацік", апавяданні "Палітрук Каламіец", "Ружовы туман", "Пагорак", "Кацюша", "Палкаводец", "Падоранае жыццё", "Жоўты пясочак", "На чорных лядах", "Перад канцом", "Народныя мсціўцы", "Бедныя людзі", "Музыка", "Восьлік", "Сьцяна" і эсэ "Вайна і перамога").

Кніга рыхтавалася да выхаду ў дзяржаўным выдавецтве "Мастацкая літаратура", але сённяшні палітычны рэжым спыніў гэтую працу. Пасля неаднаразовых прапановаў чытачоў і са згоды аўтара за выданне ўзялася "Наша Ніва". Гэты праект, ажыццёўлены з ініцыятывы і за сродкі грамадзянаў Беларусі, названы "Народнай Кнігай".

Наклад вельмі абмежаваны — усяго 750 асобнікаў.

Каб замовіць кнігу, неабходна суму ў 112.000 руб. плюс суму за перасылку праз пошту 20.000 руб. пералічыць на наступны рахунак: БГФ "Наша Ніва" р/р 301520190039 "Гарант", філіял АКБ "Поіск" г. Мінска, код 987. Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сектары "Для пісьмовага паведамлення" ўказаць назву кнігі і ваш дакладны адрас паштовы і, калі ёсць, тэлефон. Звяртацца можна праз пошту: 220085, Мінск, а/с 5, Віталь Супрановіч.



● КРЫМІНАЛ

## Зелле наркатычнае шукалі...

Не здзіўляйцеся, сапраўды зімой шукалі наркатычнае зелле, а імянна макавую саломку мясцовыя аматары экзатычнага кайфа. А шарыць ім прыходзілася ў самых розных месцах, заглядвалі ўсюды. Так хацелася што-небудзь знайсці. І знайшлі. Сарваўшы навясны замок у кладоўцы Н. Г. Гойшык, жыхаркі вёскі Размеркі, злодзеі забралі 34 бутэлькі гарэлкі. Вырашылі, што першы ўлоў даволі ўдалы, хаця і не тое, што задумалі. Усё роўна, падумалі яны, гулянка будзе. Толькі пахмелля, відаць, не адбудзецца. Прозвішчы нашых шукальнікаў устаноўлены. Узбуджана крымінальная справа. Следства пакажа, дзе і што яшчэ прыбралі да сваіх рук гэтыя аматары вясёлага жыцця.

*А. ГЛУШЭНЯ,*
*начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

● СПОРТ

## УШУ по-колхозному

Принято считать, что новые виды спорта, особенно восточное единоборство — привилегия городских ребят. Председатели колхозов "Большевик" Э. А. Сырица и "Заря коммунизма" Н. Н. Нестер Барановичского района доказали обратное. Сами страстные поборники борьбы, они постоянно поддерживают любую инициативу по развитию спорта среди молодежи хозяйства. Так, среди других видов, здесь прижилась китайская ушу. Спортсмены колхозов уже показали свои способности на, скажем так, некрупных соревнованиях. А недавно их пригласили на открытое первенство Гродненской области. Победителями в своих весовых категориях вышли Дима Миронов, Руслан Кабушко, Дима Пугачев и Дима Сайков.

Вот так дебют! Сразу — в чемпионы. А еще говорят: колхозники.

*П. НАГНИБЕДА.*



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 24 сакавіка ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.



*Тыраж 1100.*
*Заказ 872.*